

*Гнёт сумнення над табою:*
*гэты камень – глыба слова –*
*проста, годна, тымчасова*
*не падняць...*

*Алесь Каско*
*“Свой камень”*

Лявон ВАЛАСЮК



# ЗНАКІ НА ВАЛУНЕ

ВЫБРАНАЕ
НОВЫЯ ВЕРШЫ

**Новы зборнік вершаў сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў берасцейца Лявона Валасюка прысвечаны найперш маляўнічым родным мясцінам ( нарадзіўся паэт на Кобрыншчыне ), мінуўшчыне і сённяшняму дню бацькоўскага краю. Вершы закранаюць многія маральна-этычныя праблемы, звязаныя са стратай або забыццём спрадвечных духоўных каштоўнасцей народа, з урбанізацыяй і шпаркім навукова-тэхнічным прагрэсам.**

**Творы разнастайныя ў форме – ад верша-мініяцюры да разгорнутага роздуму, ад традыцыйнай рытмікі і рыфмоўкі да верлібра.**

## ЖЫЎЛЮСЯ РОДНАЮ ЗЯМЛЁЙ…

“Знакі на валуне” – сёмая па ліку кніга паэзіі Лявона Валасюка, у якую ўключаны прыдзірліва адабраныя вершы з папярэдніх кніг, а таксама новыя паэтычныя творы.

Найбольш выразна і паслядоўна праследжваецца ў зборніку тэма дзяцінства. У некаторай ступені аўтар працягвае з чытачом гутарку, пачатую ў нядаўняй кнізе прозы “Сцежкі да сядзібы”, але вярлібры цяперашняй кнігі – на тое яно і паэзія! – больш заглыбленыя, роздумныя, чым празаічныя згадкі пра залатую пару дзяцінства. Гэта можна заўважыць ужо ў вершы “Раўнавага”, якім адкрываецца дадзены зборнік. Хто з равеснікаў аўтара не катаўся ў дзяцінстве на крыгах па нашых балотах (да асушэння падчас паводкі гэта было суцэльнае мора з парыжэлымі грудкамі-астраўкамі), упіраючыся ў мёрзлае дно жэрдкай ці сукаватым дручком! А якая рызыка па крыгах дабрацца да берага, бо, калі не пашанцуе, не утрымаеш раўнавагу, – можаш і па пояс сабарснуць. І чакай тады, пакуль валёнкі ды нагавіцы высахнуць, а яшчэ ж і прачуханца ад маці атрымаеш. Менавіта раўнавага, сцвярджае аўтар “Знакаў на валуне”, ад самага маленства трымае нас на жыццёвым шляху.

Новыя вершы (яны сабраны ў асобны раздзел “А да вясны так далёка…”) – гэта, у значнай меры, і новыя па форме творы. “Старэйшы брат”, “Дзед”, “Хвядора”, “Народзіны”… Напэўна, так і трэба гаварыць пра родных людзей: разважліва, няспешна ўбіраючы паветра, каб на выдыху яшчэ і яшчэ раз прызнацца ў пашане і любові. Таму і вярлібр – разбіты на асоб-

ныя строфы, своеасаблівым “філасафічным” падрахункам верш.

Ды толькі ўжо ніколі
Я не стану такім,
Якім быў старэйшы брат:
У мяне не было і не будзе
Малодшага брата.

Быць “даўно старэйшым за старэйшага брата” – вялікая адказнасць перад яго памяццю і перад памяццю бацькоў. Трэба сказаць, што і “кароткія” вершы Лявона Валасюка нясуць важкі падтэкст.

У яблыні адной
Дзве душы:
Да роднай
Прышчэплена суседская.

Дзве душы ў яблыні… Як ужываюцца? Ніколі раней не задумваўся над гэтым. А яны ж, яблыні, кажуць знаўцы, абавязкова павінны быць прышчэпленыя. Як і папярэднія зборнікі, “Знакі на валуне” атрымаўся “колерным”. Тут уладарацнь колер-успамін, колер-настрой, колер-пачуццё...

Ад палітры старой
Каляровыя пахі.
Зранку дзіўныя птахі
Заляцелі ў пакой.
(Верш “Палітра”)



“Дзіўным птахам” добра ў суседстве з “яблыкам, мытым у дажджы”, які раніцай прынесла любая жанчына. Каляровыя пахі палітры, водар – напэўна, таксама каляровы – крамянага яблыка… А ўсё разам – “святочны”, запамінальны верш пра светлае пачуццё кахання.

Урэшце, нельга сказаць, што колераў у Валасюка-паэта зашмат. У іншага немастака “блакіту”, “барваў” ды “золата” куды болей. Аднак прафесійна спалучыць фарбы не толькі на палатне, але і ў вершы здольны ў першую чаргу паэт-мастак. Заўважым, што асноўных колераў усяго некалькі: белы, жоўты, у меншай ступені чорны і зялёны – колеры снегу, сонца, раллі і травы. Белы – у першую чаргу. Недарма Алесь Каско кароткае слова да Лявонавай кнігі “Леаніды” назваў ягонымі радкамі “Белы-белы кранаецца верш…”, убачыўшы паэтычныя радкі аўтара “белымі па настраёвасці… тужліва-светлымі і датклівымі, як празрыстая павуцінка на ветры”. Белы колер супакойвае, настройвае на роздум, прыцягвае, як некрануты ліст добрай паперы: “белы-белы, асляпляльна белы ранішні снег”, ”белае наваколле кліча да сябе”, “немагчымая цішыня белага снегу на могілках”, “белы вулей чаромхі”, “вітаюць белізной снягоў рамонкі”, спыняе ўвагу льняная фіранка на акне, якая “адхілена белай хмаркай”… А яшчэ ж белы – адзін з колераў нашага гістарычнага сцяга.

Зялёны дом
З чырвоным дахам.
Белай птушкі
Зламанае крыло.

У добрым суладдзі з гэтай чысцінёй – колер сонца: “жоўтыя кветкі маленства”, “жоўтыя мары вясны”, жоўта-залатая восеньская паляна, “маленькія жоўтыя сонейкі лотаці”… І нават кошка на стале – жоўта-рыжае сонца.

Але не ўсё так святочна на белым свеце: “чорныя гусі ляцяць і ляцяць над намі ў вырай” – гэта пра чарнобыльскую бяду. Схіляюць да суперажывання “чорныя” радкі верша, прысвечанага памяці сябра. Чытаю пра тое, як “цячэ ручэй змярцвелае вады” – і робіцца вусцішна: затхлае, нежывое рухаецца.

З кожным чарговым зборнікам набывае вагу паэтычная метафара Лявона Валасюка, усё больш звяртае на сябе ўвагу незацёртае параўнанне.

Праляцела лета –
Бліскавічны стрыж.
Ціха легла восень
Ручнікам на крыж.

Згадваецца сваё, з дзяцінства… Вельмі спадабалася апісанне зімовай раніцы ў адным з вершаў школьнай чытанкі. Узяў пэндзаль, фарбы і пачаў маляваць зіму “па сказах”: прачытаў пра сонца – у верхнім вугле ліста з’явіўся жоўты круг сонца, пра шулы пад снегам – іх таксама намаляваў. Можна лёгка здагадацца, што атрымалася ў выніку.



А вось чытаю ў Лявона Валасюка:

Стаіць хаціна новая
У вэлюме вянчальным
Са снегу пухкага,
З дымком, бы каснічком, –

і зноў хочацца ўзяць ліст паперы і намаляваць хату з заснежанымі аканіцамі, і абавязкова з дымком над дахам. Не ведаю, як вэлюм, а дымок то дакладна атрымаўся б. Гэта да таго, што аўтар умее ствараць зрокава выразныя вобразы.

Часам намаляваць запамінальны вобраз дапамагае Лявону гукапіс. “Аббіты абцасам бацькоўскі парог” – і чуецца, як у сенцах нехта абівае снег, перш чым прынесці з сабой у хату пах марознага паветра. Ці вось яшчэ – скрыгат па даху пакарабачанага мокрага ліста бляхі ў абязлюдзелай вёсцы: “Вада // Іржавая ліецца, //Трава // Іржавая дрыжыць”…

Удалай бачыцца назва зборніка “Знакі на валуне”. Замшэлы камень-валун – адзін з тых вобразаў, да якіх Лявон Валасюк звяртаецца найбольш часта. Шэрасіні камень – вартаўнік поля, жыта, суразмоўца калосся, якое да яго нахілілася (верш “Калоссе”). Яго, “цярплівага і летуценнага”, добра згадаць у самоце, калі за акном нудлівы вецер ды непагадзь. А яшчэ ён... крылаты:

Сярод дамоў
Цень ходзіць, маўчыць...
Сярод лістоты
Камень
Крылом тырчыць...

На замшэлым плячы волата – “пячаткі рук і босых ног”. Менавіта “босых”
– было б святатацтвам наступаць бруднымі падэшвамі ботаў на адбіткі сонца, дажджу і ветру на гэтым ушанаваным паэтам мануменце часу.

Разумець знакі на валуне – шчаслівае наканаванне ўсіх, каму дарагая зямля бацькоў.

Мікола СЯНКЕВІЧ





# ПАЛЁТ МАТЫЛЯ

ВЫБРАНАЕ

***

***Вочы слепіць
Белізна паперы...
Бяскрылы
Палёт матыля
Ценем кладзецца
На твар...***



# ПОЗНІЯ СНЫ...

***

***Познія сны – бліскавіцы,***
***Пахі травы і вятроў.***
***Голас на досвітку,***
***Спеў касавіцы,***
***Крокі няспынныя...***
***Дома я зноў!..***

**РАЎНАВАГА**

Вясна.
Мне шэсць гадоў.
Мы, дзеці,
Бяжым да крыгаў.

Крыгі...
Яны ўжо чакаюць нас
Сваёй таямнічай прысутнасцю
У чорным глыбокім рове.

Скачам на крыгу.
Ажно дух займае.

Яна пачынае калыхацца,
Адным краем
Паглыбляецца ў ваду,
А другім – узнімаецца ўверх.

Цяпер самае галоўнае –
Не страціць раўнавагу,
Не апынуцца ў вадзе...

Раўнавага з маленства
У нашых душах і целах...
Раўнавага трымае нас
На вадзе, у паветры,
На жыццёвым шляху...

Раўнавага стрымлівае
Ад благіх учынкаў,
Ад паспешлівых слоў...

Раўнавага –
Адзінае, што трымае нас
На неспакойна-прыгожай
Зямлі...

## ЧЫРВОНАЯ ВЕЖА

Вежа-слуп,
Магутны мур
З чырвонай цэглы,
Я адчуваю –
Ледзьве памяць закране, -
Як волат-зубр
З сівой выходзіць цемры
І трэцца бокам
Аб мяне.

І пад сабой,
І над сабой
Я чую крык.
Лаўлю стралу,
Адказваю стралою
І станаўлюся зноў былою.
Я не двайнік,
Я – гэтых даляў вартаўнік.

...Ачуюся з дарог.
“Хто ж гаварыў са мною?”
Нікога побач.
Толькі ноч з савою...



## РАКА ЛЯСНАЯ

Да берага ракі Лясной
З дзяцінства прыблукаў
Стары знямоглы човен...
Улетку з глыбіні
Лавіў у ім
Я акунёў... І повен
Быў у вядзерцы мой улоў...
Цяпер мой човен
Ля берага ракі Лясной
Вады, раслін
І бруду повен.

**ВОСЕНЬ ПАТРЫЯРХА**

Памяці мастака-педагога
М.Д.ЧУРАБЫ

Пахмурныя кроплі
Густое расы.
Паніклі, пажоўклі
Наўкола лясы.

З сівой барадою
Мастак на шашы.
Эцюднік старэнькі
Ля тонкай душы...

Хвалююся. Бачу:
Няспешна ідзе...
І з чырванню лісце
Плыве па вадзе...



**ВЯРТАННЕ
БЕРАСЦЕЙСКАЙ СТРАЛЫ**

Бог стралу адпусціў...
З серабрыстым адлівам
Мільганула скрозь час
І асела на вежу.

Ніхто не парупіўся
Зняць. Мастакі
Змалявалі для фанцікаў
І плакатаў.

Ні славы былое,
Ні яе працягу.

...Самотная вежа,
Самотны настрой.
Над горадам стрэлы –
Маланкі...

***

Старыя шыбіны
Пад пылам.
Аббіты абцасам
Бацькоўскі парог...
Да болю любімы
Кут родны,
Кут мілы.
Забінтаваны
Палоскамі дарог...



**УСПАМІН**
**ПРА СПАЛЕНУЮ ВЁСКУ**

Крык імкнецца скрозь страху
У неба. І збоку звон –
Над полем жалю.
У дрэва вечнага жыцця
Пакручаныя рукі.

***

Жывы гук скрыпкі
Дзеда Золіма...
Смычком па сэрцы,
Па душы...
Гучыць мелодыя
Маленства.

***

Смуткую зноў
Сярод муроў,
Сярод асфальту, пылу
Ды віскату машын...

І сняцца росны
Ранак мне і вёска,
Зялёны луг
І з траваў шалашы...

Я чую лета.
Косаў звон і спевы,
І маладосці позірк,
І вечар на мяжы...

У прыцемках ліловых
Мне ластаўка шчабеча,
І навальніцы подых –
Памяццю ў душы.



***

Дзень заціхае –
Соннае дзіця.
Кладзецца нерухома
Снег на дарогу...
А мне яшчэ
Так доўга крочыць.
Ісці самотна ў ноч,
Праз ноч...

***

Спякота восені. Спакой.
Празрысты далягляд
І павуцінне...
Апала лісце за табой.
Нязбыўнае
Пад грудзі моцна цісне...

***

Восень срэбным дажджом
Лапоча ў акно,
Восень лісце пад ногі
Скідае... Радно...

Ціхім ранкам лаўлю
Промень сонца апошні...
Павучка ў павуцінцы
На дзедавай пожні...



**ПАЯСОК**

Нябожчыцы-бабулі
Тканы паясок –
Лёгкай стужкай
На маім стале.

Паясок бабулін
Лашчыць цеплынёй
Летніх фарбаў,
Ільняных нітак.

Паясок бабулін –
Промнем сонца
З гадоў мінулых добрых,
Залатых хвілін.

***
У промнях сонца
Бульбоўнік
Свой трымае
Адвечны
Дэкор...

***
Лётае лісце
Па плітцы шчарбатай...
Восеньскі пах
Запіваю гарбатай...

Холад скрозь сонца
Шчыпле нязвыкла
Голкай празрыстай --
Згадкай прыкрай...



***
З табою застаюся
У ліпені, у леце...
У золкавай расе
Плывем у снах тваіх,
Рамонкавы абшар!

***
Раптоўны снег.
Густы, жаданы.
У танцы кружыць
За акном.

Стаіць хаціна новая
У вэлюме вянчальным
Са снегу пухкага,
З дымком, бы касніком.

***
Станцыя дзяцінства.
Прыпынак ля бяроз.
Туман... А падалося:
Густы дым паравозны
Не растаў – дасюль.

***
На паляне восеньскай
Жоўта-залатой
Павуцінне белае.
Белы сон.
Спакой.



***
Няма паштовак,
Годных пісьмаў.
Няма раптоўных
Тэлеграм...
За домам вецер вые,
Свішча.
І шкло звініць
Між тонкіх рам.

***

Лён цвіце.
Блакітам хвалі
Бягуць за далягляд.
Лён цвіце.
Якое шчасце
У полі мора бачыць!

***

Радзімаю
Ніколі не стамлюся...
Вадой крынічнай
Прагна наталюся.
У родны край
Не раз яшчэ вярнуся
Самотным надвячоркам
Беларусі...





# ЧАС СПЫНІЎСЯ...

***
***Без роднай мовы***
***У родным краі***
***Час спыніўся...***

**КАМЕНЬ ЛЯ ДАРОГІ**

Камень ля дарогі –
Стоўп усіх эпох.
У імху пячаткі
Рук і босых ног.

Лісцем зацярушаны
Колаў шлях цяжкі...
Зыркім сонцам, сцюжамі
Цёртыя бакі...

Дзед, як лунь, прысядзе.
Спыніцца дзяўчо...
Камень ля дарогі –
Волата плячо.

**СПОВЕДЗЬ**

Я – адзін з вас,
Я – адзін з нас.
У жыцці з праблем
Ваду нашу п’ю
І свой хлеб ем.
Я без вас ніхто,
Я без вас нішто.
У вятрах страсцей
Карта ўсіх масцей.



***

Настаў
Змяркання час –
Час тумаоў...
Ледзь відзён бляск
Ліхтароў...

Сярод дамоў
Цень ходзіць, маўчыць...
Сярод лістоты
Камень
Крылом тырчыць...

## ПАМЯЦІ СЯБРА

Пусцее двор,
Сады
Радзей квітнеюць...
Цячэ ручай
Змярцвелае вады...

А д’ябал Пушчу,
Нібы прошчу, рэжа.
За дымам –сонца
З жоўтае слюды...

Бяздомны сабака
Старую костку ліжа,
Нат чорны воран
Не ляціць сюды!..



## ЭКАЛОГІЯ

Я птушак
Жытам пакарміў – Птушкі
памерлі.
Я кветкі
Вадою паліў –
Кветкі засохлі...
Чым накормяць,
Напояць
Мяне?..

***

Увечары прыехаў я
У родны двор...
Травой высокай, вішняком
Пазарасталі цені пабудоў,
Паваленага плота...
І крыкі ластавак
Напаміналі хор
Дзіцячых галасоў...
А на дзвярах
Вісеў засоў
З іржавымі цвікамі.
Павевы ветрыку
Здаваліся
Халоднымі рукамі
Бабулі, дзеда
І бацькоў...



**ПАКІНУТАЯ ВЁСКА**

Пустыя вокны...
І здаецца:
На іх крыжы,
Крыжы, крыжы...

Вада
Ржавая ліецца,
Трава
Ржавая дрыжыць...

**СЦЯГ**

Зялёны дом
З чырвоным дахам.
Белай птушкі
Зламанае крыло...

**МАЛАДЗІКІ**

Адліга.
Маразы.
Маладзікі,
Як дзве касы,
Кастуся
Каліноўскага...

**ЧЫТАЮ КАФКУ**

Незнаёмая
Жамерына,
Быццам воблака,
Уплыла ў пакой.
Адбілася
Самотнаю плямаю.
Знікла за сцяной...



***

Камень цярплівы...
І яму мроіцца часам:
Ён сярод зялёнай
Майскай травы
У чыімсьці квітнеючым садзе
Чакае, што спыніцца
І прысядзе
Адна з самых прыгожых
Жанчын...

...Прачнуўся раптоўна:
Шэры дождж мітуслівы.
Нудлівы вецер.
Самота...

Згадваю камень-валун.

**КІНУТАЕ КУБЛО**

Кубла,
Кінутае ў заўтра,
Кульнулася ў неба
Колкім дном...

**ВЯРТАННЕ НА РАДЗІМУ**

Праз шыбіну ліецца святло
Нечаканага дня.
Хмаркай белай адхілена
Фіранка льняная.





# БЕЗ ЦЯБЕ МНЕ СОНЦА МАЛА...

***

***Без цябе мне сонца мала,***
***Без цябе няма вясны!***
***Дождж аточвае трывала***
***Мае думкі, мае сны.***

***Без цябе, як без паветра,***
***Без цябе, як без вады!***
***Без цябе знікае вера***
***У наступныя гады.***

**ПАЛІТРА**

Ад палітры старой
Каляровыя пахі.
Бы вясёлыя птахі
Заляцелі ў пакой.
На мальберце партрэт
Гожай дзеўчыны мілай,
Што пакой адчыніла,
Разгадаўшы сакрэт
Тонкіх струнаў душы,
І з сабою прынесла
Нізкі лісцяў і песняў,
Яблык, мыты ў дажджы...
Ад палітры старой
Каляровыя пахі.
Зранку дзіўныя птахі
Заляцелі ў пакой...

***

Ціхі вечар.
Светлы сон.
Спіць у полі
Сіні лён.
Зоркі сцелюць
Ясны след,
Рассыпаюць
Жаўтацвет.
Месяц прагна
П’е з ракі,
Дзе самкнёны
Дзве рукі...



**МУЗЕ**

Прыснілася
Ты мройным ранкам.
На лаўцы
У летнім халадку
Сядзела
Каля цётчынага
Ганку.
Чытала вершы
Па радку...

***

Веснавое неба
Легла на твар
Промнем танюткім
Тваіх чыстых мар...

**ТВАЁ МАЎЧАННЕ**

Тваё маўчанне –
Ледніковы камень
Сярод балота...
Тваё маўчанне –
Святло ад поўні
У цемры ночы
На прыступках
Ганка твайго.
Тваё маўчанне –
Кастрычніцкі вецер.
Калючага лісця
Шэпт.



**А.КАЛОНСКАЙ**

***

Падары мне
Гукі лесу
У адступаючай начы,
Покуль сонца
Яшчэ дрэмле,
Покуль ластаўка
Маўчыць.
Падары мне
Гукі лёсу,
Мне на памяць
Падары.
Мне з табою
Будзе светла
На праталінах
Зары...

***

Паміж
Начных крыніц
Ідзеш маўклівая з надзеяй.
Спускаюць зоркі
Промні доўгага расстання...

***

Надзея – жанчына,
Якую сустрэў нечакана.
Лятунак – дзяўчына,
Якую страціў назаўжды.



**ЗЯЛЁНЫ ТРАЛЕЙБУС**

Зялёны тралейбус
У лісці зялёным.
Дзяўчына ў сукенцы
Зялёнай у акне.
Зялёныя ластаўкі
У зеляніне лётаюць.
Промні сонца
Зялёным гараць.

***
Струменьчыкі тонкія
Дажджу,
Як валасоў тваіх
Мільгаценне.
Іх празрыстае памкненне –
Мне пасланне
Ад цябе...

**В.Р.**

***
Хачу, каб твой
Табе
Належыў твар.
І люстэрка
Перад табой
Ляжала.
Твой гаспадар.



***
Аслеплая ціша.
Цемра ночы. Спакой.
Да мяне
Дакраніся рукой
З фотаздымка,
Матуля...

***
Мала
Добрых слоў...
Безліч
Незнаёмых твараў...
Паміж сноў –
Палёт сініц...

***

Уначы дождж
Я сніў зялёны...
Уздоўж Усходу
Над зямлёй
Ляцелі бліскавак
Мільёны
Знаёмай постаццю
Тваёй...

***

Скрозь дым,
Скрозь трапяткі туман
Ляціць насустрач
Сад асенні...

***

А хата
Засталася там...
Але –
Адчыненыя сені...



***

Рук тваіх
Пяшчотных
Дотык уначы...
Крыло анёла
На досвітку...

***

Пачуцці новыя –
Арэлі.
Прыляцелі –
Адляцелі...

***

Рыскі
Вузкае далоні
Дораць мне
Цяпло зямное...

***
Зіма.
Марозны спеў
Тваіх крокаў...

***
На шкле зімовым
Пабялела
Сляза твая –
Мой белы верш...

**К.Р.**

***
Прыйдзеш ты...
Сумна бабіна лета
Скіне ўбор
З ацяжэлых галін...
Ранкам восень
Успомніць
Мінулае лісце...



***
Пах летніх траў
Успамінам павеяў...
І нечым новым і тонкім
Ад цела твайго маладога...

***
Ліпне белае павуцінне
Да пунсовай шчакі...
Над зямлёй
Сумны крык жураўліны...
Спагадлівы дотык
Рукі.

***
У вачах тваіх
Асенні шэпт
Лісця,
Згарэлага
Уначы...

**Н.ЧАРНАГАЛОВАЙ**

***

Буйства фарбаў –
Восень лета...
Серабрыць
Рабіну дождж...
Палымнее
Гронка спелай
Кіслай ягады
На ноч...

***

Нечаканы шэпт
Хмельных вуснаў. Рук
Дотык, як палёт
Матыля ўначы.



***

Снежань –
Месяц народзін зімы,
Месяц снягоў, халадоў –
Быў месяцам
Тваіх далоняў.

***

Вяселля
Учарашнія гукі
Вызвоньвае
Запацелы крышталь.
На скронях –
Далікатныя рукі,
На вуснах
Вясёлкавы баль...

***

Баюся дакрануцца
Да белай зоркі
У расчыненым акне:
Зіхаціць
Скрозь кропелькі расы
Слязой дзявочай.

***

Непаўторнае такое...
Навокал ты і сонца.





# НА СЕРАБРЫСТАЙ ТРАВЕ СЦЯЖЫНКА АЙЦА...

***
***Месяц плыве***
***Пад сузор'ем Стральца...***
***На серабрыстай траве***
***Сцяжынка Айца...***

***
У двор прыляцеў
Чорны воран,
І ў хаце маёй
Цёмна стала.

***
Дзень нараджэння.
Дзень памяці, дзень маці...
У небе аблачына
Бусліным крылом...

***
На абрыўках аблокаў
Сумны верш
Я пішу...
Боль па радзіме...

***
Праляцела лета –
Бліскавічны стрыж.
Ціха легла восень
Ручніком на крыж...

***
Голас птушыны,
Як крык немаўляці...
Плача прырода
Жалобна, як маці...

***
Зноў уначы прысніў
Краявід радзімы:
Крыжы –
Ад мяжы да мяжы.



***
Ластаўкі ў небе,
Над домам, над полем...
Над памяццю нашай –
Маланкі...

***
У сонечны дзень
Я ў хату зайшоў, памаліўся...
Замест бажніцы –
На паліцы цвыркун.

***
Самотная вежа
На чорнай гары
Ліхтаром цагляным
Пад небам гарыць...

***
На пакінутай сядзібе
Калодзежа слупы.
Помнікі
Недаўгавечныя...

***
Ляжыць
Пакінутае лісце.
Ляжыць, як камень
На душы...

***
Праходзіць дзень,
Я ліст зрываю
З календара
Учарашніх дрэў...



***
Зноў імгла...
У вочы -- вецер
Шрот кропляў долі
З вечара нясе...

***
У кроплях расы
Адбіваецца сонца.
У ранішніх промнях
Санцавее трава.

***
Туман на даляглядзе
Сівых няўлоўных мрояў...
Хістаецца галінка
І б’е калюча ў твар...

***
Шукаю
Новых фарбаў
У полі
Памяці маёй.

***
Мой дзень нараджэння –
Злітаваўся Бог –
Мой дзень адлучэння
Ад старых трывог.

***
Зімовы парастак
Нахіліўся
На Поўдзень.
Сніць вясну.



***
Цёплы верасень.
Усмешка маці.
Яблык спелы
На траве пажоўклай.

***
У яблыні адной
Дзве душы:
Да роднай
Прышчэплена суседская.

***
Жыўлюся роднаю зямлёй,
Блакітам вышыні гаюся.
Малюся мове матчынай святой
І гонару людскому не дзіўлюся.

***
Сэрца баліць.
Пакутуе душа.
Слова было
Лязом нажа.

***
У полі за вёскай –
Збуцвелае жыта.
У небе –
Месяца серп.

***
Што нас чакае
За цемрай ночы?!
Што гоніць нас
У цемру ад святла?!



***
Сонца схавалася
У вузкай далоні.
Села на палец
Пярсцёнкам.

***
Утульна, цёпла.
Зноў я дома.
Не ўсе дарогі
Замяло.

***
Самотна адкладу
Турботы на паліцу.
З халоднай галавой
Кульнуся ў лістапад.

***
Мае словы да цябе
Пашлю, нібыта птушак.
Заляцяць пад вечар у акно
Мае сініцы...

***
Святло ў тваім акне
Пабачыў...
Як цёпла на зямлі,
Як светла мне.

***
Восень раны мае
Залечвае
Полымем лісця
З бацькоўскай бярозы.



***
З шуфляды
Стала старога –
Рэшткі памяці...

***
Жоўта-рыжае сонца
На пісьмовым стале:
Кошка.

***
Цвіце чаромха ў садзе,
І вуллем белым шумна
Гудзе ўвесь куст.

***

Калодзежы парожнія –
Асака
Сярод пяскоў.

***

Жыццё вітае
Зялёным касніком
На ранняй пожні.

***

Позні час,
Як позні сын,
Любімы.



***

У тваім позірку цень снегу.
У халоднай жылачцы рукі
Пульсуе хуткае расстанне.

***

Цемра ночы.
Пастка далечыні
На кожным кроку.

***

Немагчымая цішыня
Белага снегу
На могілках.

***

Ляжаць
Глыбокія снягі,
Як белыя магілы...

***

Крылы склала птушка –
Недзе ў полі крык ляжыць...

***

Гронкі спелай рабіны –
Ліхтары да ночы.

***

Поўня ў небе –
Калодзежа дно.





# А ДА ВЯСНЫ ТАК ДАЛЕКА

## НОВЫЯ ВЕРШЫ

***

*Зіма. Мароз ссівелы, моцны...*
*І снегу сыпанула, быццам белай фарбай*
*Сусед-маляр*
*Пафарбаваў платы, дамы, дарогі, дрэвы...*
*І сонца нават пабялела ў небе.*

*Ад белізны такой*
*Так хочацца пабачыць снегіроў*
*З чырвона-барвовымі грудкамі...*
*Цікаўна-прыгожыя птушкі –*
*Бы святлафоры ўранку...*

*Бадзяюся, туляюся па кватэры.*
*Не хочацца выходзіць на мароз.*
*Не відно снегіроў, сінічак...*
*Пануе ледзяное паветра*
*З пранізлівым ветрам,*
*Пануе Яго Вялікасць Снег...*

*А да вясны яшчэ так далёка...*

**СТАРЭЙШЫ БРАТ**

Я даўно старэйшы
За свайго старэйшага брата.

Лепей бы ўсё
Заставалася назаўжды
На сваіх былых месцах:
Старэйшы брат і малодшы брат.

Я цяпер старэйшы за ўсіх,
Бо я адзін, бо жыву
Пасля бацькоў
І старэйшага брата.

Уся адказнасць
За лёсы блізкіх
Ляжыць на мне,
На маім сумленні.

Ды толькі ўжо ніколі
Я не стану такім,
Якім быў старэйшы брат:
У мяне не было і не будзе
Малодшага брата.

## ДЗЕД

Дзед фарсіць
У хаце цыгарэтай...
Віецца дым пад столь –
Нібы квітнее хмель...

Здаецца так,
А насамрэч ён іншы:
Высокі ў сваіх думках,
Глыбокі – у перажытым,
Няпэўны – у будучых днях...

Дзед моўчкі курыць,
І скрозь дым, як скрозь гады,
Пралятаюць, мільгаюць
Падзеі, людзі,
Гарады і вёскі,
Дзе давялося пабываць...

Узрост такі цяпер,
Што далёка не паедзеш...
А так хацелася б яшчэ
Пабачыць месца службы ў войску,
Месца пражывання ў бежанцах...

Не хочацца пабываць толькі
На месцы крыві і стратаў
У Першую сусветную,
У гады Другой сусветнай,
У пасляваенныя гады...

Курыць дзед,
І дым віецца.
І нібы снегу
Намяло вакол...
Вакол роднай хаты,
Вакол памяці...



## ХВЯДОРА

Стары,
Маршчыністы твар Хвядоры,
Бабулі роднай маёй.
Яна ўсміхаецца весела,
У бабулі нядрэнны настрой,
Хаця ёй мінуў
Не адзін дзесятак
Няпростых гадоў.

Бабуля ўсміхаецца,
Паглядае на мяне:
Што вытвару я сёння яшчэ,
Пакуль няма ў хаце маці,
Пакуль старэйшы брат у школе...

Бабуля Хвядора – гаспадыня.
Пад яе даглядам
Вялікая гаспадарка,
Пад яе даглядам
Жыццё блізкіх людзей.

Такою і засталася –
Ахоўніцаю вечнай...

## НАРОДЗІНЫ

Нарадзіўся я зімовым ранкам.

Роды ў маці прымала
Старэнькая бабуля-павітуха.
Яна жыла ў другім канцы вёскі.

Тыя родныя людзі,
З якімі жыла  бабулька
У адной хаце,
Назаўсёды засталіся і для мяне,
І для маёй маці раднёю...

Памятаю яе маленькую
Цёмную постаць на поплаве
За агародамі вяскоўцаў:
Бабуля спяшаецца ад некага
Да сваёй хаты.

Яшчэ адзін чалавек
Нарадзіўся ў нашай вёсцы!



## КАЛЫСКА

Калыска
Падвешана бацькам да бэлькі.
Плеценая з лазы,
З каранёў ядлаўцу,
Яна трымае пахі поля і лесу.

У калысцы мяне гадавалі маці,
Старэйшы брат, дзед з бабуляю
І зрэдку бацька,
Калі прыязджаў
На выхадны дзень з горада.

Тою калыскаю, калі ўжо падрос,
Калі яна стала непатрэбнаю
Для калыхання,
Лавіў рыбу ў ставах і равах на балоце...

Пазней, калі прыахвоціўся
Да алоўкаў і фарбаў,
Маляваў яе не раз
З цікавасцю і каб захаваць.

Даўно няма каго калыхаць
У той калысцы.
Хіба толькі глядзець на яе
І ўспамінаць маленства,
Сваіх бацькоў і дзядоў.

Глядзець на малюнак.

## СПРАЎДЖАНАЯ КАЗКА

Казка маленства:
У зімняй начы –
Зорка на небе
Адзіная...

З казкі маленства –
Каханая, ты:
Побач стаіш,
Адданая...



## СНЕЖАНЬ

Белы-белы,
Асляпляльна белы
Ранішні снег...
І сонца па-зімоваму
Бела-жоўтае...

Гляджу ў акно
Праз невялічкую праталінку:
Белае наваколле
Кліча да сябе.

Там – снежань,
Мой месяц нараджэння...

Снежань віруе
Белымі снягамі,
Белымі марозамі...
Але мне цёпла
У бацькоўскай хаце:
Я зноў нарадзіўся.

**ВЕЖА**

Вежа – мая жывая памяць.
Памяць жыве навокал мяне...

Вежкі – непарыўная памяць –
Вёска бабулі маёй...

Вежа – кропка адліку,
Вежа – адзнака лёсу...

Я пільна ўзіраюся ў вежу:
Бачу дзядоў маіх, прадзедаў...
Бачу вояў у шаломах, з дзідамі,
Чую тупат баявых коней...

Вежа напоўнена
Паветрам радзімы...

Вежа – увасабленне памяці.



**ІЛЮЗІЯ**

Світанак той самы...
Святло і цяпло
Сочацца ў родную хату,
Сочацца ў сэрца.
Свята маленства –
Самападман?..
Сонечны зайчык
Са сцяны ўсміхаецца,
Сыпле вясёлкі ў вочы...
Самы час уставаць.
Стаіць новы дзень
Сёмага лета.

## АБЯРЭГ

Крыж моцна збіты,
Фарбаваны
Блакітам неба і вады,
Праменнем сонечным абліты,
Вартуе хаты і сады.

У час апошняе адлігі
Час пакаяння за грахі
Пад гэтым знакам настае...

А думкі кволыя мае
Плывуць, чапляюцца, бы крыгі,
За веснавыя берагі...

Ці абярэг мне дапаможа
У чорным покрыве ракі,
Магутны Божа?!



## ХУТАР

У полі за вёскай
Хутар-прывід...

Я марыў там жыць
Пад высокімі грушамі,
Пад старымі вязамі,
Урослымі ў блакіт
Далёкіх нябёсаў
І мараў маіх...

Хутар-прывід
Поўны спеву дзяўчат
І мужчынскіх галасоў,
Поўны шчэбету
Гарэзлівых дзяцей
І птушак...

Мой хутар-прывід
Свята захоўвае
Любоў да жыцця,
Да зямлі, да нябёсаў...

## ЖОРНЫ

У куце сенцаў, бы вартавыя,
Стаяць старыя дзедавы жорны.

Колькі яны існуюць,
Колькі служаць людзям – невядома...
Жорны спраўна
Робяць сваю справу:
Перамолваюць збожжа.

Калі жорны не працуюць,
Яны маўкліва чакаюць дзеда:
Раптам сыпне жменю зерня,
Раптам пачне круціць
У правы бок камень...

Жорны ўмеюць працаваць,
Жорны ўмеюць чакаць...
Толькі гаспадары
Не заўжды маюць магчымасць
Працаваць з жорнамі:

Не хапае зерня, не хапае сілы...
Няма і вялікай патрэбы:
Хлеб прывозіць горад,
Хай сабе – час ад часу,
Хай сабе – меней смачны.

Старыя жорны
Пакутліва чакаюць свайго лёсу.



## ГАРЫШЧА

Даўно не ўзбіраўся
На старое гарышча:
Ведаю, што там
Ужо нічога цікавага
Не адшукаю, не пабачу...

Ды толькі неадольнае жаданне
Пабываць на гарышчы
Прысутнічае ўва мне,
Не пакідае мяне, бы ў маленстве.

Прыязджаю ў старую хату,
Заходжу ў сенцы,
А позірк скіроўваецца ўгору,
Да старога гарышча...

Наверсе ў паўзмроку
Жыве дух маіх продкаў,
Жыве памяць
Мінулага часу.

## ГРУША

Груша на былой сядзібе –
Стары сімвал жылля,
Помнік мінуламу часу,
Мінуламу стагоддзю...

Яе грубая кара
Нагадвае літары
На старой паперы.

Шкада: прачытаць
Ніхто ўжо не зможа...



## ГАРА

Дарослыя кажуць пра нейкую гару...
Я ў збянтэжанасці:
Няўжо сярод балота
Існуе пясчаная гара?

Але ўяўляю:
Блішчыць пяском, бы золатам,
Пад сонцам...
Гара – прытулак ад самоты.
Дасюль мне хочацца туды.

## ШТОВЕСНУ

Штовесну
Слухаю дыханне
Абуджанай прыроды...

Душа непакоіцца
Будучыняю Бацькаўшчыны,
За паветра, атручанае
Чорнаю бядою...

... А чорныя гусі
Ляцяць і ляцяць
Над намі ў вырай,
У іншыя краіны,
У іншае жыццё.

Штовесну
Душа непакоіцца:
Ці вярнуцца?



## ПОЛЕ

За шэрай імглою
Віднеецца поле –
Продкаў абшар
Сакавітай зямлі.

Маё дарагое
Матуліна поле...
Бабуліна поле
Мінулай вайны...

## КАМЕНЬ – ВАЛУН

Грэе мне памяць
Камень-валун
На ўскрайку балота...

Яго шырокая,
Цёплая “спіна”
Добразычліва
Прымала мяне,
Басаногага,
На сваю шурпатую
Паверхню.

Камень заўжды
Служыў для людзей
Маяком, абярэгам
І суцяшальнікам...

Асушылі балота.
Не стала і каменя-валуна.
Магчыма, яго закапалі
Там, дзе ляжаў.

Інакш, чаму ж так цягне
Гэтая мясціна?



## СПАРЫШ

Спарыш – гэта ты і я.
Мы паяднаны адной крывёю,
Мы паяднаны адным духам,
Мы паяднаны  часам адным...

Наша існаванне –
Наша адзінства.

Дзе адно – там і другое.
І так назаўжды,
Пакуль адно ў двух,
А двое – у адным...

Мы сядзім побач.
Мы – адно цэлае.
Мы – спарыш.

## КОЛА

Рыпіць, адлічвае
Пясчаныя вёрсты дарогі
Драўляна-металічнае кола
Дзедавага вазка...

Яго даўно ніхто не змазваў,
Даўно не дагледжвалі кола...
Таму яно незадаволена і рыпіць,
Да чаго прывыкнуць немагчыма.

Мінае палі, балоты і вёскі.
Кола незадаволена рыпіць...
Адлічвае вёрсты
Светлага майго дзяцінства...



## ЛОТАЦЬ

Жоўтыя кветкі маленства,
Жоўтыя мары вясны...

Грэла сонца, цяплела паветра,
Прылятали кнігаўкі.

Зацвітала лотаць
Маленькімі жоўтымі сонейкамі
У атачэнні халоднага хрумсткага лісця,
У атачэнні квакання балотных жабак.

Кветкі ў дзіцячых руках паступова вялі,
Але траплялі дадому ўсё такімі ж прыгожымі,
Радавалі нашых бабуль і матуль...

Лотаць – маленькае сонейка,
Незгасальнае.
Як і сонца вялікае.

## ШЫПШЫНА

Нават калючкі на голлі
Не перашкаджаюць
Падыходзіць да яе, нахіляцца,
Дыхаць непараўнальным
Пахам квецені...

Хутка восень.
Чырванее шыпшына.
Першыя халады
Ахутваюць ліхтарыкі-ягады.

Толькі мне цёпла
Ад успамінаў,
Ад чырвонай шыпшыны
На белым полі памяці.



## КОНІКІ

Стракозы крылцамі
Палохаюць спакой
Над ціхай сажалкай,
Над травамі.

У маленстве
Мы называлі
Конікамі іх...

З якою цеплынёй
За конікамі назіралі,
Лавілі іх
За слюдзяныя крылцы...

Прыгожым адбіткам
Сонечнага маленства
На маёй далоні
Рознакаляровыя конікі
Адпачываюць
Ад XXI стагоддзя.

## КАЛОССЕ

Калоссе казыча рукі і твар,
Радуе сваёй жыццёвай сілай.

Пад калоссем унізе
Вітаюць блакітам нябёсаў валошкі,
Вітаюць белізной снягоў рамонкі,
Вітаюць сонечным колерам маргарыткі...

Збоку ляжыць шэра-сіні камень.
Яго не палохае ні вецер, ні дождж.
Камень не баіцца ні маразоў, ні маланак...

Камень – вартаўнік поля,
Камень – вартаўнік жыта...
Камень – напамін лёсу,
Камень – суразмоўца калосся.

Калоссе нахіляецца долу
Да цёплага каменя,
Да вясёлкавых кветак...

Калоссе
Чакае зажынак.



## АСАКА

Усё лета
Зялёныя хвалі яе
Пераліваюцца
Металічным колерам.

Асака шурпатая, вострая.
Лёгка парэзаць далоні.
На асаку лепей глядзець,
Касіць ранкам з расою...

Асака непрыкметна
Выглядвае з-пад снегу,
Нібы саромеецца свайго
Зімовага выгляду.

Пад снегам асака
Ужо бездапаможная.
Бездапаможная
Пад лязом касы...

## САД ДУШЫ

Любімы сад
За плотам
Ля падворку,
Нібы працяг
Жытла, душы...

Мой родны сад
З гожых яблыняў
І грушаў,
З вішнёвай квецені
І пырску матылёў.

Любімы сад
Валодае мною,
Цвіце ў душы
Усё жыццё.



## МЕСЯЦ

У небе месяц: летні, малады...

Трапляю неспадзявана
У светлыя юнацкія гады.

Як і тады,
Месяц плыве, зіхаціць
І выяўляе сярод начы
Дамы і дрэвы, і платы...

Выяўляе ў далечы завулку
Тваю белую-белую постаць...
Месяц - светлы і бліскучы,
Як першае каханне.

## ЧОРНЫ ТРОХКУТНІК

Чорны трохкутнік
Суправаджае мяне
Па жыцці з маленства...

Чорны трохкутнік
Нясе мне радасць і пакуты,
Смутак і трывогу...

Чорны трохкутнік
Болей значны
За чорны квадрат...

У чорным трохкутніку
Адчуваеш сябе
Больш трывожна і адказна...

Чорны трохкутнік –
Дарога ўначы
Ад парога да небакраю...



## НАТХНЕННЕ

Вясна. Цёплы вечар.
Квецень вішнёвага саду...

Спяшаюся на сустрэчу
З жаданай жанчынаю.

Іду ўздоўж квітнеючых дрэў.
Пахі вечаровай вільгаці
Палоняць мяне, ахутваюць...

Спеў цішы, водар вясны...
Я іду
Да прыгожай жанчыны...
Я ахоплены
Нечаканым натхненнем...

Паўтараю сам сабе словы
І вершаваныя радкі...
Невыказнае натхненне
Узнімае мяне над зямлёю,
Над квеценню...

## САМОТНІК

Самотнік вяз
Над роднаю сядзібай
Раскінуў шаты
Памяці маёй...

Пад ім сваволіў я,
Бавіў час
У летнюю спякоту,
Хаваўся
Ад дажджу, вятроў...

Самотнік вяз
Здалёк сваёй лістотай
Кліча, вабіць...
Чакае.
Сваімі шатамі
Захіліць мяне ад бяды.

Чакае мяне,
А я спяшаюся да яго:
Абодва мы – самотнікі.



## ВЕРАСЕНЬ

Верасень.
Першы дзень восені.
Першая палова слова
Складае імя маёй маці: Вера.

Маці мая
Нарадзілася ў верасні...

Месяц верасень
Нагадвае 1939 год –
Год першых Саветаў
У Заходняй Беларусі,
Год Вызвалення...
Вызваляю цяпер сябе
Ад розных пакутаў
З вераю ў лепшае жыццё...
Ці, наадварот, ствараю іх сабе...

## ШАЛІК

Шалік
Бела-чырвонага колеру
Падобны на сцяг
Вялікага Княства Літоўскага...

Шалік у халады
Быў заўжды вакол маёй шыі –
З дзяцінства
Грэў мне сэрца і душу.

Бела-чырвоны шалік
Аднойчы падарыў мне бацька
На чыгуначным вакзале
Перад ад'ездам...

Цяпер мае шалікі
Іншага колеру.
Бела-чырвоных
Не шые мая краіна.



## КАЛЯНДАР

Адарваны лісток
Пражытага дня
Кожны раз апынаецца
У маёй далоні.
Нібы жоўтага матылька,
Далікатна трымаю яго...

Да ўсяго жывога,
Як і да часу жыцця,
Стаўлюся ўважліва
І беражліва.

Так лёгка спудзіць
Маленькага птаха,
Так проста страціць
Нешта ў адну хвіліну...

## СЯРЭБРАНЫ ГРОШ

Сярэбраны грош
Знайшоў неяк я
На былым
Дзедавым полі...
У чорнай зямлі
Маіх продкаў
Бліснуў ён мне
Сваім падсонечным бокам,
Хваляй свежага ветру
Прабег па душы...

Сярэбраны грош
Не ўзбагаціў мяне
Матэрыяльна:
Сярэбраны грош
Узмацніў
Маю гістарычную
Памяць.



## ЭЦЮД

Пажоўклай фарбай -
Поле і мяжа.
Медна-зялёнай –
Лісце бэзу...

Пішу эцюд
Ля нізкага стажка
Старой саломы
З рыжай асакою...

Пішу эцюд
І дыхаю паветрам
Майго маленства,
Спадчыны бацькоў...

Жыццё далёкае
Фарбамі віруе,
Свой промень светлы
На эцюд кладзе...

**ДАБРАНАЧ**

У светлым настроі.
Жадаю вам сну
Без клопату, страху,
Кашмараў і боляў...

На ноч адпускаю
Жаданняў стралу
І каляровыя
Сны выпускаю...

Дабранач табе,
Вераснёвая птушка,
Дзявочы пагляд,
Цёплых вуснаў адчай...

Дабранач табе,
Белавежская пушча.
Вежа каменная,
І ўвесь родны край.

Дабранач...



**ЗМЕСТ**

**ЧАС СПЫНІЎСЯ...**



**БЕЗ ЦЯБЕ МНЕ СОНЦА МАЛА...**







**НА СЕРАБРЫСТАЙ ТРАВЕ СЦЯЖЫНКА АЙЦА...**

**А ДА ВЯСНЫ ТАК ДАЛЁКА**
Новыя вершы

